# Вескі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”*

**Viestki j Paviedamlenni**

**Сусьветнае сеціва:** ***e-krama.com, www.pahonia.org***
**Электронны адрас:** ***viestki@mail.com***
✉ ***VIESTKI, P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735***

**№ 5 (567)**
**Травень 2013 г.**


# Чарнобыльскі мітынг у Нью-Ёрку

У пятніцу 26 красавіка каля штаб-кватэры Арганізацыі Аб’еднаных Нацыяў на Мангэтане ў Нью-Ёрку прайшоў мітынг, ладжаны Беларуска-Амэрыканскім Згуртаваньнем “Пагоня”, які быў прысьвечаны 27-й гадавіне аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, у выніку якой значная частка абшару Беларусі была забруджаная радыяцыйнымі ападкамі. Мэтай мітынгу было ўшанаваць памяць людзей, што загінулі ад Чарнобыльскай радыяцыі, і прыцягнуць увагу да таго беларускага насельніцтва, што дасюль жыве на забруджаных радыяцыяй землях, да інвалідаў, ліквідатараў, анкалягічна хворых, а таксама – выказаць занепакоенасьць будаўніцтвам атамнай станцыі ў Беларусі, небясьпекай новага Чарнобылю.

Быў цудоўны вясновы дзень. На мітынг сабралася ладная грамада сяброў Згуртаваньня “Пагоня” ды іншых неабыякавых людзей. Побач зь месцам мітынгу, каля прыступак, што афіцыйна называецца “Прыступкі Шчаранскага”, і ля сквэрыку пад назваю “Парк Ральфа Банча” луналі бел-чырвонабелыя сьцягі. Удзельнікі мітынгу трымалі плякаты, прысьвечаныя тэме Чарноблю ў Беларусі. Сярод іх былі таксама плякаты, што выказвалі пратэст супраць будаўніцтва новай атамнай станцыі ў Беларусі каля Астраўца.

Напачатку перад удзельнікамі мітынгу выступіў старшыня Згуртаваньня “Пагоня” сп. Віталь Зайка. Ён даў кароткі агляд падзеяў, датычных Беларусі пасьля Чарнобыльскай катастрофы, адзначыў сувязь паміж бракам інфармаванасьці людзей і палітычнай сыстэмай, як у 1986 годзе, так і цяпер. Сп. Зайка заўважыў, што чарнобыльская бяда ў Беларусі падкрэсьлівае тыя антынародныя, антынацыянальныя рысы, якія мелі, як тагачасны савецкі лад, так і сёнешні постсавецкі рэжым. Штогадовымі ваяжамі ў забруджаную зону Лукашэнка імкнецца давесьці людзям, што праблемы больш няма, што дзяржава цалкам кантралюе чарнобыльскую сытуацыю, і нават – што на забруджаных землях можна вырошчваць чыстую сельгаспрадукцыю (гэткае фэнамэнальнае “ноў-хаў” вартае Нобэлеўскай прэміі, калі-б толькі гэта было праўдай). Прамоўца таксама паведаміў пра Чарнобыльскі шлях у Менску, пра арышты прадстаўнікоў экалягічных і антынуклеарных арганізацыяў. Характэрна, што пратэстоўцы ў Менску

***Заканчэньне на бачыне 3***



# Красавіцкі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У Доме Маракоў на Мангэтане 13 красавіка адбыўся чарговы красавіцкі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня арганізацыі Віталь Зайка прывітаў прысутных і коратка распавёў для тых, хто ўпершыню прыйшоў на сход, пра арганізацыю, яе мэты і прынцыпы. Затым прагучала аб’ява пра маючы адбыцца 26 красавіка мітынг каля ААН, прысьвечаны 27-й гадавіне Чарнобыльскай трагедыі.

Далей сп. Яўген Барысевіч, сябра ўправы Згуртаваньня “Пагоня”, пераняў вядзеньне сходу і прапанаваў абмеркаваць тэмы, што варта закрануць падчас Чарнобыльскага мітынгу. Прапанова выклікала цікавасьць у прысутных, і завязалася нязмушаная дыскусія пра сэнс і значаньне даты 26 красавіка – Дня Чарнобылю. Прапаноўваліся ідэі пра “мірны атам”, пра хвіліну цішы ў гонар тых, хто загінуў у выніку аварыі й радыяцыйнага забруджаньня. Частка прамоўцаў выказалася за тое, каб засяродзіцца на адзначэньні Чарнобыльскай гадавіны як Дня Смутку і, магчыма, сабраць сродкі для анкалягічна хворых у Беларусі, але ўстрымацца ад палітызацыі гэтай даты. Некалькі асобаў прапанавалі прысьвяціць мітынг выказваньню пратэсту супраць будаўніцтва атамнай электрастанцыі ў Беларусі, якое пачалося на Астравеччыне ўжо год назад. Таксама прапаноўвалася, каб замест пратэсту супраць Астравецкай АЭС паставіць больш дасягальную мэту – патрабаваць, каб была збудаваная бясьпечная станцыя па ўсіх сусьветных нарматывах. Частка прысутных прапанавала, каб на мітынгу былі асьветленыя ўсе пытаньні, што ў той ці іншы спосаб зьвязаныя з радыяцыйнай сытуацыяй у Беларусі й трактаваньнем яе ўладамі, з захворваньнямі ў выніку радыяцыйнага забруджаньня, з пагрозай новых праблемаў у гэтай дзялянцы. Прапаноўвалася таксама, каб быў абраны фокус мітынгу на нейкай адной канкрэтнай тэме.

Некалькі чалавек выступілі са сваімі асабістымі перажываньнямі й выпадкамі з жыцьця, што зьвязаныя з Чарнобыльскай катастрофай. Пасьля ажыўленай дыскусіі й галасаваньня было прынятае рашэньне спалучыць на мітынгу разнастайныя тэмы, зьвязаныя з пытаньнямі Чарнобылю й радыяцыі ў Беларусі. Было прапанавана падаваць тэксты для лёзунгаў і накіды зьместу плякатаў для мітынгу.

Затым перад прысутнымі выступіў прадстаўнік арганізацыі “Беларусы ў экзылі” Дзьмітры Шчыгельскі. Ён пачаў з інфармацыі пра сябе, распавёў пра сваю працу лекарам-псыхіятарам у Беларусі й згадаў свой дыягназ мазаічнай псыхапатыі ў Лукашэнкі, што несумяшчальны з адказнай пасадай кіраўніка дзяржавы. У выніку ён быў змушаны эміграваць зь Беларусі і ў 2001 годзе прыехаў у ЗША. Па вобразным выразе сп. Шчыгельскага, у Амэрыцы ён “...напачатку, як і ўсе, паеў г*ўна – мыў, чысьціў, працаваў таксістам”. Пасьля стаў працаваць на расейскамоўным радыё Давідзон, а тады – на 87.7 FM радыё Да-Ну, дзе цяпер вядзе прысьвечанае Беларусі шоў “Краіна бяз часу”. Сп. Шчыгельскі быў сузаснавальнікам, разам з былым старшынём Рады Згуртаваньня Беларускіх Студэнтаў Яўгенам Іванюком, арганізацыі “Беларусы ў экзылі”. Па словах сп. Шчыгельскага, яны не займаюцца грамадзкай дзейнасьцю, юрыдычнай дапамогай ці культурніцкай працай. “У гэтай арганізацыі канкрэтная і ясная задача – прывесьці сьпісы асобаў і структураў у Беларусі, супраць якіх прымаюцца санкцыі, у адпаведнасьць з амэрыканскімі праваўымі крытэрамі. Нас падтрымлівае беларускі бізнэс, ня буду казаць, хто канкрэтна. Мы ня маем грантаў ад ЗША і не плянуем па іх зьвяртацца. Супрацоўнічаем з піяр-кампаніяй, шукаем выхадаў на сэнатараў і кангрэсмэнаў у Вашынгтоне.” Таксама наладжана супрацоўніцтва з польскім дэпутатам Эўрапарлямэнту Марэкам Мігальскім, што дапамагае ў справе вызваленьня палітвязьняў З. Дашкевіча і М. Статкевіча, з кансалтынгавай кампаніяй Фаярстоўн Данкан, што спрычынілася да прыняцця Закону Магніцкага ў ЗША.

Сп. Шчыгельскі адзначыў, што ў Нью-Ёрку плянуецца ў наступную нядзелю правесьці мітынг каля прадстаўніцтва кампаніі “Фальксвагэн”, каб выказаць пратэст супраць спансаваньня “Шкодай”, даччынай фірмай “Фальксвагэна”, чэмпіянату сьвету па гакеі 2014 г. у Беларусі.

Затым сп. Шчыгельскі адказаў на пытаньні прысутных і, фактычна, прызнаў, што “Беларусы ў экзылі” – віртуальная арганізацыя, яе сябры расьцярушаныя па сьвеце. Сеціўны сайт яе – толькі на ангельскай мове, “бо скіраваны на інфармаваньне мясцовай грамадзкасьці й палітыкаў”. Прамоўца падкрэсьліў, што адзіна слушным і эфэктоўным узьдзеяньнем на Лукашэнку ёсьць ціск эканамічны. “Неабходна пашырэньне санкцыяў. Цяпер у амэрыканскім сьпісе па санкцыях – толькі 11 прозьвішчаў лукашэнкаўскіх урадоўцаў, тады як у сьпісе Эўразьвязу – больш за 300. Трэба спыніць экспарт зь Беларусі нафты, нафтапрадуктаў і калію. Лукашэнка можа здаць Расеі ключавыя беларускія прадпрыемствы па заніжаных коштах, але калі яны будуць фігураваць у санкцыйных сьпісах – зрабіць незаконную прыватызацыю будзе складаней, а вярнуць іх назад было-б пасьля значна лягчэй.”

Затым у разьдзеле “Рознае” адбыліся знаёмствы з гасьцямі сходу, прагучэлі аб‘явы й паведамленьні. Прысутныя мелі магчымасьць працягнуць знаёмствы пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**



# Чарнобыльскі мітынг

*Заканчэньне з бачыны 1*

несьлі плякаты, сярод якіх быў такі: “У Беларусі дзьве бяды: Лукашэнка і Чарнобыль”. Прамоўца адзначыў брак аб’ектыўнай інфармацыі пра радыяцыйную сытуацыю ў Беларусі, запалохваньне і перасьлед тых, хто імкнецца сказаць праўду пра Чарнобыль, як прафэсар Юры Бандажэўскі, што трапіў на 6 год за краты па сфабрыкаваных абвінавачваньнях.

Затым слова ўзяў сп. Андрэй Паторскі, што паходзіць з Гомелю. Ён падзяліўся ўласным досьведам пра жыцьцё на забруджаных тэрыторыях, пра тыя праблемы, зь якімі сутыкаюцца людзі ў сваіх штодзённых клопатах, пра інтэрнат, пра перасьлед уладамі тых, хто імкнецца прыцягнуць увагу да чарнобыльскай бяды, і пра свае ўласныя праблемы з уладамі. Сп. Паторскі выканаў пад гітару напісаную ім песьню пра чарнобыльскую бяду ў Беларусі. Песьня была вельмі цёпла сустрэтая прысутнымі.

Са сваім бачаньнем наступстваў Чарнобыльскай катастрофы і яе ўплыву на жыцьцё беларускіх людзей выступіў сп. Арцём Гусак. Ён у прыватнасьці нагадаў пра кнігу Сьвятланы Алексіевіч “Чарнобыльская малітва”, якая адлюстроўвае чарнобыльскі досьвед звычайных людзей у Беларусі, і якая была перакладзеная на шмат моваў і выдадзеная, дарэчы, і ў ЗША. “Прачытаўшы гэтую кнігу, можна лепей зразумець, чаму мы павінны памятаць пра трагедыю на Чарнобыльскай АЭС”. Сп. Арцём Гусак папрасіў ушанаваць памяць загінуўшых хвілінай цішы. Ён таксама выказаў пратэст супраць будаўніцтва атамнай станцыі ў Беларусі, супраць пагаршэньня здароўя людзей і супраць завышэньня нормаў радыяцыйная бясьпекі і таксама супраць ператварэньня краіны ў радыяцыйны могільнік.

Сп. Зайка дадаў, што адным з негатыўных вынікаў дзейнасьці рэжыму Лукашэнкі стала зьмяншэньне замежнай дапамогі пацярпелым ад Чарнобылю ў выніку гвалтоўнага закрыцьця такіх недзяржаўных арганізацыяў, як фонд “Дзецям Чарнобылю”, які арганізоўваў часовы выезд на аздараўленьне замяжу тысячаў дзяцей з забруджанай радыяцыяй Чарнобыльскай зоны Беларусі.




У сваім выступе спчня Надзея Лысак распавяла пра дзіцячы дом дзяцей-інвалідаў Чарнобылю ў Менску. Гэтыя дзеці былі народжаны з разнастайнымі жудаснымі калецтвамі, і яны фактычна забытыя грамадзтвам. Пра гэты дом ёй нагадала ў Амэрыцы ў каледжы выкладчыца-амэрыканка, што зьвязаная з арганізацыямі дапамогі дзецям Чарнобылю, яна паказала таксама фатаздымкі. Аказалася, што гэты дом месьціцца на той самай вуліцы ў Менску, на якой жыла Надзея. Адтуль ніхто ніколі не выходзіў, а сам будынак рабіў ураджаньне занядбанага, недагледжанага. Надзея Лысак выказала спадзяваньне, што падвышэньне грамадзкай увагі да лёсу тых дзяцей павінна зьмяніць стаўленьне да іх, і зрабіць іх часткаю грамадзтва, так як гэта звычайна ёсьць у Амэрыцы.

Напрыканцы мітынгу сп. В. Зайка падзякаваў усім удзельнікам за дапамогу й неабыякавасьць і коратка распавёў пра дзейнасьць Згуртаваньня “Пагоня”, заклікаў прыходзіць на імпрэзы арганізацыі.

***Віталь ЗАЙКА***

*Здымкі Надзеі ЛЫСАК*

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## За свае грошы хоць дзе харошы

Сёньня завядзем гаворку пра тое, што расейцы называюць „чаявымі”, палякі „напіўкамі”, амэрыканцы „тыпамі”, а што па-беларуску лепш за ўсё перадаецца нацыянальнай традыцыяй прынашэньня “гасьцінца”.

„Калі хочаш, каб цябе любілі, трэба толькі патраціць трошкі грошай. Я патраціў трошкі грошай, і афіцыянт палюбіў мяне. Ён ацаніў маю вартасьць. Ён будзе рад мяне яшчэ раз пабачыць. Калі-небудзь я прыйду сюды зноў абедаць, і ён радасна сустрэне мяне і захоча, каб я сеў за яго столік. Гэта будзе шчырая любоў, таму што грунтуецца на цьвёрдай аснове. Францыя! Я ізноў у Францыі.” Гэтак гаворыць герой рамана „І ўзыходзіць сонца” (Фэст) Эрнэста Хэмінгўэя, у перакладзе Юркі Гаўрука. Але вернемся ўсё ж на радзіму аўтара, у Амэрыку.



Тэма даваньня гасьцінцаў – гэта тэма рака. Этыкет – не закон, і параграфамі яго аформіць немагчыма. У кожнай краіне практыка гратыфікацый моцна адрозьніваецца, але ў Амэрыцы, здаецца, з гэтым перабралі больш за ўсё. Тут гасьцінцы ўручаюць на кожным кроку, у барах, цырульнях, таксоўках, гатэлях, ну і, перш за ўсё, у рэстарацыях. Абсурд палягае ў тым, што тут гасьцінец звычайна даецца нават тады, калі кліент ня надта задаволены. У такіх выпадках пакідаецца 10% ад кошту паслугі, то бок трохі менш ад звычайнай нормы 15%. 25% даецца калі абслугоўваньне было надзвычайным. Амэрыканская закавыка ў тым, што гасьцінец становіцца часткаю заробка афіцыянта, лічыцца даходам і наватападаткоўвацца. Паўстае аднак лягічнае пытаньне, хто, апрача ўласьніка рэстарацыі і дзяржавы, можа быць зацікаўлены ў тым, каб гасьцінец быў афіцыйнай часткай заробку. Як кліент, які ідзе ў рэстарацыю, я, напрыклад, хацеў бы бачыць канчатковую цану паслугаў і тавараў у мэню, а не ў якасьці неспадзеўкі на рахунку ці падсьвечаную ў вачах афіцыянта.

Наогул, прэміяваньне – гэта прывілей багатых, і нічога дрэннага ў гэтым, як зрэшты ў самім багацтве, няма. Дрэнна, калі прыемная практыка зводзіцца да нефармальнага прымусу і падлягае сацыяльнаму ціску, а людзі зь невялікім даходам палохаюцца звычайных, часта зусім неэлітных паслугаў.

Хай амэрыканцы, што хочуць, тое і робяць, а мы шануйма свой гасьцінец і не раскідваймася ім!

**Віталь ВОРАНАЎ**

### Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:

В. Богдан ........................50
Н. Бруй ..........................50
С. Голуб .........................50
М. Дзеканчук ....................50
М. Клакоцкі .....................50
К. Машоха .......................50
В. Недагрэенка .................50
Г. Нехнядовіч ....................50
В. Шаўчэнка ....................50

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў аддзел шліце на адрас:**

*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя** *Valentina Balashchenko.*

***Шаноўныя сябры!***

*Калі ласка, сачыце за тэрмінам заканчэньня вашай падпіскі (**інфармацыя на канвэрце**) і не забывайце свaечасова яе працягваць.*

## Наступны сход

**Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца **ў суботу 11 траўня 2013 году.**

**На сходзе сёньняшняе кіраўніцтва арганізацыі дасьць справаздачы аб дзейнасьці, і адбудуцца выбары новага кіраўніцтва на наступны год.**

**Просьба ўсім сябрам узяць удзел у выбарах альбо дэлегаваць свае галасы праз упаўнаважаньні.**

Месца правядзеньня сходу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да станцыі **Union Square**.*

*Будынак знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад Union Square па 15-й вуліцы на скрыжаваньні з Irving Place.*

***Заля на другім паверсе.***

Пачатак: **а 6:00-й** вечара.

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні* :

В. Балашчэнка ...............30
Н. Бруй .........................30
С. Голуб ........................30
М. Данілюк .....................30
М. Дзеканчук ..................30
Т. Мароз .........................30
К. Машоха ......................30
В. Недагрэенка ...............30
Г. Нехнядовіч ..................30
В. Шаўчэнка ...................30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь могуць усе зацікаўленыя даслаўшы аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*
***VIESTKI***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
*Чэкі з адзнакаю **“Весткі”** выпісвайце на імя **Valentina Balashchenko**.*
*Падпіску таксама можна аформіць, наведаўшы сайт **www.e-krama.com***